# БЮЛЕТЭНЬ

Беларуск. Рэспублік. К-ту Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых С.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ ТЫДНІ

(Галоўныя пастановы і дырэктывы Беларускага Рэспубліканск. Камітэту, інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 8 (43) | 10-га чэрвеня 1930 году | № 8 (43)


## ЗЬМЕСТ



## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму БРК саюзу сельгаслесрабочых па дакладу Лесбелу аб пляне летніх лесанарыхтовак 1930 г.

*19/V—1930 г.*

Адзначыць, што плян летніх лесанарыхтовак, зацьверджаны ЭКАНА БССР, складае па нарыхтоўцы: будаўнічага матар'ялу 640.000 куб. мтр. і дроў 1.800.000 куб. мтр., а па вывазцы будаўнічага матар'ялу 1.800.000 куб. мтр. і дроў 1.300.000 куб. мтр. што патрабуе мабілізацыі ўвагі і сіл усіх гаспадарчых і саюзных арганізацый для поўнага выкананьня гэтага пляну, для чаго Прэзыдыум БРК прапануе:

1. Лесбелу прыняць энергічныя захады да поўнага выкананьня пастановы Прэзыдыуму БРК ад 29/III—г. г. і давесьці плян летніх лесанарыхтовак да кожнага вучастку, п/вучастку, дзесятніка і арцелі, аб чым даць канкрэтныя паказаньні мясцам.

2. Адзначыць, што вярбовачны апарат НКПрацы ў зімовы час не справіўся з вярбоўкай сілы для лесанарыхтовак, дзякуючы чаму тэхнічным працаўнікам Лесбелу прыходзілася самім утвараць вярбоўку рабгужсілы ў ушчэрб сваей тэхнічнай працы—Наркампрацы прыняць рашучыя захады да поўнага забясьпечаньня летніх лесанарыхтовак рабгужсілай і перабудаваць працу вярбовачнага апарату, згодна пастановы Прэзыдыуму БРК ад 9/V—г. г.

3. Белкаапсаюзу забясьпечыць летнія апэрацыі Лесбелу неабходнай колькасьцю прадуктаў і прамтавараў па ўстаноўленых нормах, а таксама шынным жалезам у колькасьці 250 тон, для чаго

ўзьняць адпаведнае хадайніцтва перад адпаведнымі органамі.

4. У сувязі з тым, што да гэтага часу ў цэнтры яшчэ ня вырашана пытаньне ў адпаведных органах аб праграмы летніх лесанарыхтовак і ня вылучаны фонды сродкаў і прадуктаў харчаваньня для лесанарыхтовак, дзякуючы маецца пагроза зрыву, прасіць ЦК прыняць адпаведныя захады да сваячасовага вырашэньня гэтага пытаньня. Лясному Сэктару БРК скласьці ў ЦК адпаведную запіску.

5. Прапанаваць рабочым камітэтам лесанарыхтовак і сплаву:

а) Праверыць выкананьне пастановы Прэзыдыуму БРК ад 29/III аб выніках лесанарыхтовак і прыняць захады да поўнага іх выкананьня.

б) Правесьці на ўсіх вучастках п/вучастках вытворчыя нарады і агульныя сходы, на якіх шырока абгаварыць і прапрацаваць плян летніх лесанарыхтовак і давесьці яго да кожнага дзесятніка, арцелі з тым, каб кожны лесаруб, а таксама дзесятнік, замершчык цьверда ведаў свае заданьне.

в) Шырока разгарнуць сацспаборніцтва і ўдарніцтва паміж асобнымі арцелямі лесарубаў, дзесятнікамі на хутчэйшае, поўнае і якаснае выкананьне праграмы лесанарыхтовак і рацыянальнага скарыстоўваньня драўніны.

г) Узмацніць культурна-масавую работу на летні час сярод лесарубаў і тэхнічнага пэрсаналу, для чаго намеціць практычныя мерапрыемствы (вытворчыя гурткі, радые, газэты, бібліатэка, насьценгазэта і г. д.).

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму БРК саюзу сельгаслесрабочых па дакладу аб працы вярбовачнага апарату на сэзонным рынку працы.

*Ад 9-га мая 1930 году.*

Заслухаўшы даклад тав. Радзівонава аб працы вярбовачнага апарату, Прэзыдыум БРК саюзу Сельгаслесрабочых адзначае, што праца вярбовачнага апарату НКПрацы па вярбоўцы рабсілы на лесанарыхтоўках і сплаве пастаўлена дрэнна. Да гэтага часу некатарыя лесараёны (Барысаў, Мазыр, Чэрвень) не забясьпечаны рабсілай на сплаве (не хапае да 8.000 чал.). Асноўнымі прычынамі дрэннай работы вярбовачнага апарату зьяўляюцца:

1) Дрэнны падбор работнікаў вярбовачнага апарату.

2) Слабае кіраўніцтва з боку НКПрацы (за ўвесь час не праведзена інструктаваньне вярбоўшчыкаў).

3) Слабая дапамога ў рабоце вярбовачнага апарату з боку саюзных органаў на мясцох.

4) Адсутнічаньне сталага вучоту рабсілы, асабліва кваліфікаваных рабочых.

5) Нічога ня зроблена па арганізацыі сталых кадраў рабочых.

Выходзячы з гэтага, Прэзыдыум БРК саюзу ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1) Па лініі НКПрацы.

а) Перагледзець склад вярбовачнага апарату ў напрамку палепшаньня якасьці яго, вылучаючы на гэту работу лепшых сельгаслесрабочых і завесьці сталы якасны вучот вярбоўшчыкаў.

б) Наладзіць жывое кіраўніцтва і інструктаж вярбовачнага апарату праз выезды на месцы і правядзеньне інтруктыўных нарад.

в) Установіць да 1/VIII сталы вучот па акругах, раёнах і с/с рабочай сілы як па колькасьці, так і па якасьці (сацыяльнае становішча і кваліфікацыя).

2) НКпрацы зараз жа прыняць практычныя мерапрыемствы да забясьпечэньня летніх лесанарыхтовак рабсілай, для чаго давесьці плян забясьпечэньня рабсілай да кожнага с/с, вёскі. Камандыраваць у акругі і раёны адказных працаўнікоў НКП для праверкі працы і аказаньня дапамогі мясцом у наладжваньні працы вярбовачнага апарату.

3) Адзначыць, што існуючая розьбежка ў расцэнках паміж лесанарыхтоўчымі органамі і дарожнымі ўтварае ажыятаж і зьяўляецца надзвычайна ненармальнай, што пагражае зрывам вярбоўкі рабсілы лесанарыхтоўчым арганізацыям.

Прасіць НКП прыняць залежныя меры на неабходнасьць утачненьня ра

знак для дарожных і лесанарыхтоўчых работ.

4) Прапанаваць рабачкомам лесанарыхтовак у працягу мая месяца абгарыць пытаньне аб рабоце вярбовачнага апарату, у напрамку практычнай дапамогі ў рабоце вярбовачнага апарату, вылучэньня лепшых работнікаў на работу і намеціць практычныя мерапрыемствы па забесьпячэньні вучастку рабсілай.

5) Прапанаваць Лесбелу скласьці рэальныя заяўкі на колькасьць патрэбнай рабсілы.

6) Лічыць неабходным арганізацыю курсаў па падрыхтоўцы кваліфікаваных рабочых на лесанарыхтоўках (клепачнікаў, шпалацесаў і інш.) Лесбелу, НКПрацы і Лясному Сэктару распрацаваць практычныя мерапрыемствы па арганізацыі гэтых курсаў к вясеньняму сэзону

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму БРК саюзу сельгаслесрабочых аб выніках падсочнага промыслу за 1929 г. і аб пэрспэктывах на 1930 г.

Прэзыдыум адзначае, што вытворчы плян мінулага году па падсочцы выкананы:

а) Па плошчы—на 190 проц. (па пляну намечана 2 тыс. га—фактычна падсочана 3.800 га)

б) Па дабычы жывіцы на 170 проц. (па пляну намечана 360 тон, здабыта 637 тон)

в) Зьніжэньне сабекошту-на 16 проц. (па пляну 380 р. тона жывіцы, фактычна па балянсу 321 р. франка-завод).

г) Пабудова да тэрміну Барысаўскага каніфольнага заводу.

д) Прыступлена да пабудовы каніфольнага заводу ў г. Бабруйску.

е) Праведзена двое курсаў: (2 мес. і 1 месячн.) на 135 чалавек.

Адначасова Прэзыдыум адзначае, што:

а) Пытаньне па папулярызацыі падсочак на мясцох работнікамі лясьніцтв сярод насельніцтва не праводзіцца і нават ёсьць няўважлівыя адносіны з боку асобных працаўнікоў лясьніцтв.

б) Рабачкомы лясьніцтв зусім мала займаюцца ў штодзённай рабоце пытаньнямі падсочкі, як-та: арганізацыя работы, падбор кадраў, культурна масавай работай сярод рабочых па падсочцы.

в) Недахоп казыркоў узьвязку з несваячасовым выкананьнем пляну па забясьпечэньні бляхай Бельгасснабам, што пагражае зрывам выкананьне пляну падсочак у 1930 г.

Выходзячы з гэтага Прэзыдыум БРК саюзу пастанаўляе.

1. Лясному кіраўніцтву НКЗ пашырыць плошчу падсочкі ў 1930 г. 15. тыс. га замест 12 тыс. га па дабычы жывіцы да 2600 тон, замест 2000 тон, вызначаных плянам.

2. Скончыць пабудову і пуск каніфольнага заводу ў Бабруйску да 1/VIII, замест 1/X.

3. Бельсельснабу прыняць тэрміновыя захады к забясьпечэньню НКЗ—70 тон цынкованай бляхай да 15/V і заразжа забясьпечыць пабудову Бабруйскага каніфольнага заводу трубамі і будаўнічымі матар'яламі.

4. Белкаапсаюзу—здаволіць поўнасьцю заяўку НКЗ на забясьпечэньне рабочых па падсочцы прадуктамі харчаваньня і прамтаварамі нараўне з лесарубамі.

5. Лічыць неабходным арганізаваць у лясьніцтвах сталы кадр рабочых у ліку 3 тыс. чал., якіх летам скарыстаць па падсочцы, а зімою на лесанарыхтоўках і на іншых лясных работах. Даручыць лясному сэктару БРК, сумесна з Наркамземам, НКПрацы, даць практычныя ўказаньні мясцам аб укамплектаваньні гэтых рабочых з сельгаслесрабочых і пралетарскай часткі вёскі і мястэчак і разьмеркаваць колькасьць па акругах.

6. Прапанаваць рабачкомам лясьніцтв у сваей штодзённай рабоце палепшыць абслугоўваньне рабочых па падсочцы, разгарнуўшы паміж імі сацспаборніцтва і ўдарніцтва, наладзіць культмасавую работу, як-та: выпіска газэт, забясьпечэньне літаратурай, забясьпечэньне гэтай часткі рабочых рашэньнямі партыі па індустрыялізацыі краіны (5-ці годка ў 4 гады калектывізацыі) і г. д. Уцягнуць лепшую частку рабочых па падсочцы ў парадку добраахвотніцтва ў

актыўную прафработу. Папулярызаваць на агульных сходах як работнікаў лясьніцтв, так і селян аб значэньні падсочкі, скарыстоўваючы для гэтай работы спэцыялістых лясьніцтв.

7. Пацьвердзіць пастанову Прэзыдыуму БРК ад 27/VIII-29 г. аб пасылцы ў замежную камандыроўку спэцыялістых для вывучэньня падсочнае справы з свайго боку, Прэзыдыум раіць т. Лазарэвіча

## Аб вярбоўцы дабравахотніках па стат. рабоце.

Ц. С. П. С. Б. вынесена пастанова аб прымяненьні дабраахвотніцтва ў працы саюзнай статыстыкі.

Практычна, гэтую працу мяркуецца правесьці наступным чынам: у кожным рабачкоме павінен быць дабраахвотны карэспадэнт БРК саюзу, які вярбуецца з ліку асоб, добра знаёмых з вучотнай працай (справавод, рахункавод і інш. канцэлярскі працаўнік).

Усялякія заданьні БРК саюзу па прадстаўленьню статзьвестак выконвае карэспандэнт і запоўнены блянк за сваім подпісам і подпісам старшыні рабачкому дасылае БРК саюзу.

Усю перапіску па статыстыцы БРК саюзу будзе слаць на імя карэспандэнта.

Для ажыцьцяўленьня намечаных намі мерапрыемств у гэтай галіне працы, рабачкомам неабходна зараз-жа павесьці растлумачальную працу сярод членаў саюзу па сутнасьці дабраахвотніцтва ў працы наогул, і ў прыватнасьці аб прымяненьні яго ў працы на саюзнай статыстыцы, маючы на ўвазе, што ў большасьці старшыні рабачкомаў ня вызвалены ад працы на вытворчасьці і ня маюць магчымасьці сваячасова выконваць усе нашы заданьні па статыстыцы, а асоба, якая будзе несьці пачотнае званіе дабраахвотніка і ў дабавак добра знаёмая са статыстычнай працай, зможа сваячасона выконваць нашы заданьні і тым самым палепшыцца праца самаго рабачкому.

Прозьвішча і імя вылучанага дабраахвотніка, а таксама займаемую пасаду і яго асабісты адрас паведоміце БРК саюзу.

Заг. Арг. Сэктару **Жывіцкі.**

Заг. Інфармац.-статчасткай **Юшкевіч**

*Усім рабачкомам саюзу СГЛР і райінструктарам.*

## Аб прысылцы зьвестак, колькі батракоў удягнута ў калгасы і колькі батракоў ахоплена працдагаварамі.

Для выяўленьня колькасьці батракоў і пастухоў, уступіўшых у калгасы, Б. Р. К. саюзу яшчэ у канцы сакавіку м-ца г. г. выпрацавала форму па вучоту батракоў, уступіўшых у калгасы. Гэта форма была разаслана ўсім сельрабачкомам з прапановай прадставіць зьвесткі не пазьней 15 красавіка.

Ня гледзячы на тое, што ужо прайшло больш месяца пасьля паказанага тэрміну, БРК саюзу аўрымаў зьвесткі толькі ад 20 30 сельрабачкомаў, а апошнія нічога не прысылаюць.

Адзначаючы ненармальнасьць такога становішча, дзякуючы чаму БРК саюзу ня мае пэўных зьвестак колькі зараз налічваецца батракоў у калгасах і колькі іх працуе ў калгасах, БРК саюзу прапануе ўсім саюзным органам па атрыманьні гэтага паказаньня зараз-жа падлічыць, колькі батракоў і пастухоў усяго налічваецца па раёну дзейнасьці кожнага рабачкому, колькі з іх падлеткаў да 16-ці год і колькі батракоў і пастухоў зняходзіцца ў калгасах і колькі іх працуе ў саўгасах і на іншых работах (лесараспрацоўкі, торфараспрацоўкі і г. д.) і прысылаць усе гэтыя зьвесткі у БРК саюзу непазьней 15 чэрвеня.

Разам з гэтым паведаміць, колькі заключана працдагавароў на батракоў і пастухоў, працуючых у серадняцкіх сельскіх гаспадарках, сельскіх вобчаствах і кулацкіх гаспадарках. Паказаўшы сярэднюю зарплату батрака і пастуха, як серадняцкай гаспадаркі, гэтак сама і ў кулацкай.

Райінструктары павінны прыслаць такія-жа зьвесткі кожны па свайму раёну.

Заг. Калгасна—Батрацкім

Сэктарам **Вяжэвіч**

Заг. Інфармац.-Статчасткі **Юшкевіч**

## Аб скарачэньні адлічэньняў ад зарплаты рабочых і служачых

*(Пастанова Прэзыдыуму ЎсеЦСПС ад 8 сакавіка 1930 году па пытаньні аб скарачэньні адлічэньняў ад зарплаты рабочых)*

Выходзячы з неабходнасьці рашучага зьменшаньня ўсялякіх адлічэньняў ад зарплаты, празьмерна абцяжарваючых бюджэт рабочых і служачых, і спыненьня шырока распаўсюджанай практыкі розных адработак, Прэзыдыум УсеЦСПС у дадатак да свайго рашэньня ад 18 сакавіка 1930 г. пастанаўляе:

1. Прапанаваць усім прафарганізацыям, пры правядзеньні мерапрыёмстваў па пытаньні аб адлічэньнях з зарплаты рабочых на розныя мэты кіравацца тым, што ўсялякага роду адлічэньні павінны насіць строга дабраахвотніцкі характар, і пагэтаму пастановы агульных сходаў аб адлічэньнях не павінны мець для рабочых абавязковага характару.

2. Лічыць неабходным спыніць усялякія адлічэньні з рабочых шляхам адработкі выхадных днёў і зьверхурочных гадзін. У выключных—адработкі могуць вытварацца ледзь толькі з дазволу ЎсеЦСПС у кожным паасобным выпадку.

3. Прапанаваць усім прафарганізацым пры наступнай кампаніі падпіскі на пазыку, забясьпечыць такое становішча, каб калектыўная падпіска на пазыку, утвараемая па пастановах агульных сходах рабочых і служачых, ні ў якім выпадку не перавышала паўмесячнага заработку ў год.

4. Прапанаваць усім прафарганізацыям не дапускаць выпадкаў якіх-небудзь адлічэньняў з заработку рабочых і служачых праз кантору, за выключэньнем выпадкаў, прадугледжаных правіламі ўнутранага распарадку.

5. Лічыць мэтазгодным скараціць з 1 студзеня 1931 г. разьмер членскіх узносаў у прафсаюз з 2 да $1^1/_2$ проц. і ў касу ўзаемадапамогі з 1 проц. да $^1/_2$ проц. Прапанаваць усім прафараганізацыям абгаварыць гэта пытаньне на надыходзячых пленумах, канфэрэнцыях і зьездах.

6. Пры правядзеньні кампаній за ўдзел рабочых і служачых у розных дабраахвотніцкіх вобчаствах выходзіць з таго, каб кожны рабочы і служачы састаяў ня больш, чым у двух з іх-

**Прэзыдыум УсеЦСПС.**

ЗГОДНА:
Заг. Інфарм. часткай
БРКсаюзу **Юшкевіч**

Гэту пастанову абгаварыце на агульных сходах, зьмясьціце ў насьценгазэта і распаўсюджыце ў чырвоных кутках клюбах.

## Аб распаўсюджваньні велёсыпедных абавязацельств

У мэтах палягчэньня працоўным набыцьця велёсыпедаў, а таксама павялічэньня сродкаў для будаўніцтва і пашырэньня велёсыпедных заводаў, пастановаю Саўнаркому Саюзу дазволена Усесаюзнаму Машынаму Аб'яднаньню выпусьціць велёсыпедныя абавязацельствы, якія па выплаце іх каштоўнасьці даюць права на атрыманьне велёсыпеду. Рэалізацыя абавязацельств будзе праводзіцца праз крэдытныя таварыствы і ашадкасы ў чэрвені і ліпені месяцох.

Прыдаючы вальмі важнае значэньне пасьпяховаму распаўсюджваньню сярод членаў саюзу велёсыпедных абавязацельств як з пункту погляду разьвіцьця спорту, гэтак і на павялічэньня сродкаў на сацыялістычнае будаўніцтва, Бел. Рэсп. Камітэт саюзу прапануе:

а) Зараз-жа зьвязацца з крэдытнымі таварыствамі і ашчадкасамі і дагаварыцца з імі аб парадку рэалізацыі велёсыпедных абавязацельств сярод членаў саюзу'

б) Забясьпечыць ашчадкасам і крэдытным таварыствам актыўную дапамогу ў правядзеньні растлумачальнай работы сярод членаў саюзу аб значэньні выпуску велёсыпедных абавязацельств і рэалізацыі іх.

в) Аказаць практычную дапамогу камісіям садзейнічаньня на прадпрыёмствах і ўстановах, якія прыцягваюцца да непасрэднай работы па рэалізацыі велёсыпедных абавязацельств.

Кошт абавязацельства 160 руб. з растэрміноўкай узносу ад 1 да 3-х год.

Заг. Арганізац. Сэктару БРК Саюзу
Сельгаслесрабочых **Жывіцкі.**

## Усім акруговым і раённым інструктарам і нізовым ячэйкам н/саюзу

Увосень 1929 г., БРК СЛГР была дадзена дырэктыва аб арганізацыі падрыхтоўкі с/г лесрабочых і батракоў у навучальныя ўстановы (ВНУ, тэхнікумы і рабфакі), як групавым, гэтак і індывідуальным мэтадам.

У мэтах забясьпечэньня прасоўваньня скончыўшых курсы і індывідуальную падрыхтоўку ў навучальныя ўстановы і для падняцьця сваячасова пытаньня перад органамі НКАсьветы аб аслабаненьні скончыўшых курсы ад прыймовых іспытаў пры паступленьні ў навучальныя ўстановы, БРК СГЛР прапануе ўсім арганізацыям нашага саюзу, пры якіх вялася падрыхтоўка як групавая, гэтак і індывіндуальная ў навучальныя ўстановы, не пазьней 25-га чэрвеня г. г. прысладь у БРК зьвесткі па ніжэй дадзеных формах.

Акруговым і раённым інструктарам прасачыць за сваячасовым выкананьнем.

Заг. Сэктарам Кадраў
і Культштабам **Башмачнікаў**

# ЗЬВЕСТКІ

**аб працы курсаў па падрыхтоўцы ў ..................., арганізаваныя пры рабачкоме ...................**

Курсы пачалі працаваць ................1929 г., скончаюць працу ................1930 г.

| №№ па парадку | Прозьвішча курсантаў | Сацыяльнае становішча | Працоўны стаж | Саюзны стаж | Нацыянальнасьць | Партыйнасьць | Узрост | Якія прадметы выкладаліся на курсах | У якую навучальную ўстанову жадае паступіць | УВАГА: |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | |

# ЗЬВЕСТКІ

**Аб індывідуальнай падрыхтоўцы сельгаслесрабочых у навучальныя ўстановы пры ................с/рабачкоме.**

Падрыхтоўка пачата ................1929 г., скончыцца 1930 г. ................

| №№ па парадку | Прозьвішча падрыхтоўваемых | У якую навучальную ўстанову рыхтуецца | Сацыяльнае становішча | Працоўны стаж | Нацыянальнасьць | Узрост | Партыйнасьць | Праф-стаж | Якія прадметы праходзіў | Хто вёў падрыхтоўку (паказаць настаўнік якой школы і прозьвішча) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | |

702



## Аб прысылцы зьвестак па ліквідацыі няпісьменнасьці.

К 5-му мая г. г. рабачкомы - сельрабачкомы павіны былі прыслаць у БРКСаюзу зьвесткі аб ліквідацыі няпісьменнасьці сярод членаў саюзу.

Карткі па вучоту разасланы яшчэ у канцы красавіка г. г., між тым нягледзячы на тоя, што ўжо прайшло шмат часу большасьць рабачкомаў гэтых зьвестак не прыслала.

Адзначаючы недапушчальнасьць з боку рабачкомаў да справы вучоту канчыўшых лікбез, БРКСаюзу катэгарычна прапануя прыслаць вышэйпамянёныя зьвесткі не пазьней 15-га чэрвеня-

Заг. Культштабу **Башмачнікаў**

**Выдавецтва Бел. Рэс. К-ту Сельгаслесрабочых СССР.**

Адказны рэдактар **Манжалей.**
Намесьнікі яго: **Лашкевіч, Юшкевіч.**

Галоўлітбел № 2206. Тыраж 1000 экз. Друкарня Менспраўдому.